ва прадажы выдае камісарыят Пазычкі, куды трэба скіроўваць заявы. Купляць аблігацыі мае права выключна Банк Краёвага Гаспадарства.

— У верасьні і кастрычніку г. г. будуць прывезены у Польшчу вялікшыя транспарты савецкіх, пераважна крымскіх, яблыкаў.

— Міністэрства Камунікацыі прызнала 50 прац. зьніжкі асобам, якія паміж 1 — 16 верасьня г. г. паедуць на Міжнародны Усходні Кірмаш у Львове

— У Міністэрстве Асьветы разглядаецца праект у справе ўтвареньня асобнага тыпу рамесьленых гімназіяў. Для абсольвэнтаў народных („powszechnych“) школаў згодна з праектам, павінны быць утвораны чатырох-гадовыя сталярскія, дэкарацыйныя, калярскія і іншыя курсы. Заданьне гэтых гімназіяў—даць канчаючым, апрача веды агульнай, веду спэцыяльную, фахова-практычную.

— У сувязі з рэпрэсіямі ў Францыі і Бэльгіі, скіраванымі супроць чужаземцаў, лік рээмігрантаў, інакш кажучы, асобаў, якія ізноў вярнуліся ў Польшчу, значна павялічыўся. За бягучы год вярнулася ў Польшчу 18 тыс. асоб, з іх 14 тыс. жыло ў Францыі.

— Гэтымі днямі выехала на Палесьсе экскурсія прафэсароў вышэйшых заграничных школаў, дэлегатаў-учасьнікаў Географічнага Кангрэсу ў Варшаве. Вучоныя францускія, ангельскія, бэльгійскія і іншых дзяржаў маюць замер дакладна азнаёміцца з Палесьсем.

— Новы праект фінансавага закону ўводзіць сыстэму безадкладных грашавых штрафаў у суме да 20 зл., якія фінансавыя ўстановы будуць мець права накладаць на асобы, нарушаючыя фінансава-адміністрацыйныя распараджэньні і пастановы. На падставе новага закону будуць штрафавацца асобы, якія карыстаюцца *неаштэмпляванымі машынкамі.*

—Сьледчая паліцыя зьліквідавала ў Варшаве камітэт польскае камун. партыі. Зроблены ў розных частках гораду вобыскі. Знойдзены шапірографы, машыны да пісаньня, брашуры, рукапісы і г. д. Арыштавана больш 80 асобаў на чале з Гэпнер.

— Польскае тэлеграфнае агенства (ПАТ) пярэчыць чуткам, якія зьявіліся ў францускай прэсе, быццам паміж Польшчай і Нямеччынай вядуцца тайныя перагаворы, датычачыя гандлёвай умовы, а найгалаўней — умовы, абавязываючай Польшчу да захаваньня нэйтралітэту ў выпадку вайны Нямеччыны з якой колечы дзяржавай. Чуткі гэтыя, згодна з асьведчаньнем агенства, зьяўляюцца абсурдальнымі.

# Заграніцай.

× Паводле вестак, атрыманых з **Шанхаю,** Японія прыступіла да канцэнтрацыі свайго ваеннага флоту ў Дайрэне (даўней Дальні). У сяньняшнюю хвіліну знаходзіцца там ужо ня менш 30 ваенных караблёў. У Харбін-жа выслана эскадра самалётаў, у склад якой уваходзіць 50 бомбавозаў. У шанхайскіх палітычных колах канцэнтрацыю японскіх ваенных сілаў тлумачаць пагоршаньнем сытуацыі на манджурска-савецкай граніцы.

× Як падае харбінскі корэспондэнт „Дэйлі Тэлеграф“ савецкае консульство абвесьціла, каб усе рэзервісты, якія служылі ў флоце, зьявіліся не пазьней 2-га верасьня ў Уладзівасток ці ў Хабароўск. Распараджэньне гэтае тлумачыцца напружаным станам на Далёкім Усходзе.

× У памешканьні гэнэральнага сэкрэтара Лігі Народаў (Нацыяў) адбылася на днях нарада ў справе прыняцьця Саветаў у Лігу. Выясьнілася, што кандыдатура СССР ня будзе падтрымана малымі дзяржавамі, бо няма гваранцыі, што ў прышласьці Саветы будуць выпаўняць міжнародныя трактаты.

× Ува ўсіх установах **Нямеччыны** ўводзіцца **готыцкі** шрыфт. Шрыфт-жа лацінскі маюць права ўжываць толькі ўстановы міжнароднага характару і фірмы, якія вядуць заграничны гандаль.

× „Ле Журналь“ зьмясьціў вялікшы артыкул адносна **нямецкай** авіацыі. Згодна з гэтым артыкулам, Нямеччына мае найлепшыя аэродромы і найлепшых пілётаў. Афіцыяльна немцы ня маюць ваеннай авіацыі, аднак пасажырская і прыватная вельмі моцная і ў кожную хвіліну можа быць ператорана ў ваенную. Пасажырскія самалёты Юнкерса могуць рабіць ад 140 да 320 клм. у гадзіну, забіраючы з сабой вялікшую колькасьць бомбаў і кулямётаў. У выпадку вайны, Нямеччына будзе магчы кожны месяц будаваць па 210 новых самалётаў і 450 матораў, пры гэтым прадбачыцца ўзрост прадукцыйнасьці з кожным месяцам.

× Міністр справядлівасьці ў Нямеччыне выдаў брашуру адносна аканчальнай апрацоўкі дзяржаўнай камісіяй **новага карнага кодэксу.**

На чале будучай сыстэмы кар стаіць кара сьмерці. Прысуджаных на кару сьмерці будуць вешаць, а пры прысудзе вайсковым —расстрэліваць. У пэўных выпадках прысуджанаму на кару сьмерці будзе дадзена магчымасьць пакончыць з сабой самагубствам. У гэтых выпадках прысуджаны атрымлівае атруту або рэвальвер.

Што датычыць іншых кар, праект прадбачыць больш цяжкія, чымсь дагэтулішні кодэкс. У вастрогах нябудзе сяньнікоў, сьвятла і. г. д. Атрымліваць прадукты ад сваякоў, а таксама купляць дадаткова—забараняецца.

Прадбачыцца яшчэ адна характэрная кара: грамадзкі байкот, які раўняецца маральнай сьмерці чалавека.

× Старшыня райхсбанку і заступнік міністра гаспадаркі Шахт выступіў з заявай адносна катастрафальнага недахопу сыр'я ў **Нямеччыне.** Шахт, старающыся выявіць максымальны оптымізм, паміж іншым заявіў, што на гэтую зіму насельніцтва Нямеччыны забясьпечана прадуктамі. Таксама ўрад знойдзе спосаб, каб знайсьці сыр'я дзеля вывазнога і ўнутранага промыслу.

× У **Амэрыцы** (Злучаныя Штаты) пачаліся вялікія вайсковыя манэўры амэрыканскай арміі, у якіх прыймае ўдзел ня толькі рэгулярнае войска, але і г. зв. нацыянальная гвардыя і рэзервісты. Урадовыя кругі бачуць у гэтых манэўрах вялікае палітычнае значэньне—як дэманстрацыю супроць Японіі. У манэўрах бярэ ўдзел больш 400.000 жаўнэраў, адбываюцца-ж яны ў штаце Нью-Джэрсей.

× Гаспадарчы крызыс моцна адчуваецца і ў **Англіі.** Зачыняюцца некаторыя вялікшыя ангельскія фабрыкі, як напрыклад параходa-будаўляная фірма „Вільлям Бірэмор Энд Ко“, а таксама ведамая па сваёй прадукцыі сталі фабрыка Т ва „Памерэля“.

× **Амэрыка** (Злучаныя Штаты) прадала ў працягу 6 мес. г. г: самалётаў і матораў Нямеччыне на 1 мільён 556 тысяч даляраў, Кітайцам на 1 міл. 239 тыс. дал., Саветам на 637 тыс. даляр., Калумбіі на 537 тыс. дал. Усяго за гэтыя 6 месяцаў вывезена з Амэрыкі 146 вайсковых самалётаў і 454 матораў.

× У **Гішпаніі** (Мадрыд) паліцыя выкрыла камуністычную сходку, у якой бралі ўдзел матросы ваеннага гішпанскага флёту. У сувязі з арыштамі некаторых з іх, узбунтаваліся матросы некалькіх ваенных караблёў.

× У канцы гэтага месяца закончыўся зьезд **савецкіх** пісьменьнікаў (распачаўся 15. VIII), на які прыбыло больш як 300 дэлегатаў з правам рашучага голасу. На зьезд гэты прыбыла і дэлегацыя **беларускіх** пісьменьнікаў (з Савецкай Беларусі) у ліку 20 асоб, паміж іншым Янка Купала, Кузьма Чорны, Крапіва, Галавач і іншыя.

× 29 г. м. распачнецца ў Рызе конфэрэнцыя прадстаўнікоў **Латвіі, Літвы і Эстоніі** ў справе апрацаваньня пляну далейшага супрацоўніцтва гэтых дзяржаў і навязаньня бліжэйшых суадносін.

× „Der Telegraph“ перадае, што **Гэбэльс** будзе звольнены са становішча міністра прапаганды і вызначаны паслом у **Варшаве.** Гэтага, быццам вымагае гаспадарчы дыктатар Нямеччыны, старшыня Нямецкага банку Шахт.

× У Парыжу выйшла кніга, прысьвечаная камуністычнаму тэрору ў Эўропе і Расеі. У гэтай кнізе ёсьць статыстычныя дадзеныя адносна ліку асоб, „контррэвалюцыянераў“, расстрэленых бальшавікамі ў 1917—1923 г.г. Згодна з гэтымі афіцыяльнымі і, разумеецца, далёка не поўнымі дадзенымі, **бальшавікі** за гэтыя 6 гадоў **расстрэлялі:** 25 архіерэяў, 1.200 сьвяшчэньнікоў, 6.500 вучыцялёў, 8.800 дактароў, 55.000 афіцэраў, 52,000 жаўнераў, 10.500 паліцыянтаў, 48.000 жандармаў, 344.000 прадстаўнікоў інтэлігэнцыі, 115,000 сялян, 119.000 работнікаў і г. д.

Усяго за гэтыя 6 гадоў бальшавікі расстрэлялі **1.750.000** чалавек.

× У сувязі з інцыдэнтамі і шматлікімі арыштамі савецкіх урадоўцаў на К. В. чугунцы, адносіны паміж **Японіяй і Саветамі** страшэнна напружаны. Амаль уся заграничная прэса з трывогай сачыць за прабегам выпадкаў, уважаючы, што гэты конфлікт у хуткім часе можа давесьці да вайны ня толькі паміж СССР і Японіяй, але і іншымі дзяржавамі, перадусім тымі, якія маюць пэўныя концэсіі на усходзе.

Савецкія улады сьпешна концэнтруюць на ўсходзе сваё войска. **Амерыканцы** таксама пераводзяць свой флёт з Атлянтыцкага на Ціхі акіян.

У сувязі з апошнімі арыштамі савецкіх урадоўцаў, полпрэд СССР у Токіо К. Юрэнеў паслаў японскаму міністру Хіроце вострую ноту пратэсту.



**БАЦЬКІ!**

**Навучайце вашых дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску.**



## Нямеччына пад знакам Саары.

Сяньня у Эрэнбрэйтэнштэн над Рэнам адбыўся урачысты абход пад клічам задакумантаваньня нямецкай вернасьці для Саары.

У абходзе бралі ўдзел Гітлер, Гэбэльс, і іншыя вышэйшыя прадстаўнікі Ураду. Гітлер выказаў у сваёй прамове, што нямецкі народ апошнім плебісцытам пацьвердзіў сваю салідарнасьць з унутранай і замежнай палітыкай ураду. Праз палітычны тэрор і байкот заграніца нічога не дасягне. Народны соцыялізм жыве ў згодзе з усімі веравызнаньнямі і апіраецца на падставах позытыўнага хрысьціянізму. Адно, што урад правёў, гэта падзел між дяржавай і касьцёлам. Вызначэньне тэрміну плебісцыту на 13. I. 1935 г. ёсьць найбольшай падзеяй бяг. году. Цяпер маем дзьве задачы:

Першая—забыць усе даўнейшыя партыйныя розьніцы і асягнуць агульную згоду у сучаснай Нямеччыне. Усе тыя, хто выкажацца за сучасны лад Нямеччыны, будуць прыняты намі з адкрытымі рукамі і не пашкадуюць гэтага.

Другая—гэта лячэньне ран гаспадарчага жыцьця. Пасьля Гітлер зьвярнуўся пад адрэсам Францыі, кажучы: абшар Саары зьяўляецца прадметам спрэчкі між Францыяй і Нямеччынай. Пасьля вырашэньня гэтае справы,—можа даўнейшыя праціўнікі пераканаюцца і згодзяцца з намі, што нашыя супольныя задачы вельмі вялікія, і замест узаемнага змаганьня лепш прыступіць да супольнага іх вырашэньня.

Прамову сваю канцлер закончыў тым, што званы, якія абвесьцяць 13. I. 1935 г. злучэньне Саары з Нямеччыняй, абвесьцяць таксама сьвету паварот да эры згоды.

# Усячына.

### Тэмпэратура зораў.

Астраномы і інжынеры збудавалі апараты, якімі з вялікай дакладнасьцю азначаюць тэмпэратуры найдалейшых зораў. Гэтымі апаратамі ўстаноўлена, што нашае сонца ёсьць „жоўтаю“ зарою, якая займае месца паміж „халоднымі чырвонымі“ зорамі і „гарачымі белымі“. Тады як тэмпэратура „халодных“ зораў выказваецца лічбаю 3000 градусаў, тэмпэратуры „гарачых“ зораў маюць 15-20 тысяч градусаў, як, напрыклад, тэмпэратура Сірыўса. Некаторыя зоры ў сузор'ях Касіопэі і Орыона нагрэтыя да 50.000 градусаў, а нямецкі астраном Розэнбэрг знайшоў зару страшэннай гарачыні: зара „Гама“ ў сузор'і Пэгаса мае тэмпэратуру 400 тысяч градусаў. Але гэтыя вялізарныя тэмпэратуры ня могуць быць найбольшымі — яны адносяцца толькі да зорных паверхняў, тады як унутры зораў пануе куды большая тэмпэратура. Гэтак, паводле тэорэтычных аблічэньняў, тэмпэратура цэнтральных частак сонца дасягае 50 мільёнаў градусаў а ў гарачых зорах тэмпэратуры іх сярэдзіны павінны мерыцца сотнямі, калі ня тысячамі мільёнаў градусаў.



Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА.

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.